**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 44 (760) 30 кастрычніка 2014 года. Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**2 лістапада – Дзяды. Дзень памяці продкаў.**



Photo ByMedia.net

**Ушацкі раён**

# Талентам тут рады

■ Станіслаў Раманчук

**Разнастайныя мерапрыемствы былі ўключаны днямі ў праграму ўрачыстасцей з нагоды 90-годдзя стварэння Ушацкага раёна.**

Само ж свята адкрыла імпрэза, прысвечаная юбілею мясцовай дзіцячай школы мастацтваў, узрост і гісторыя дзейнасці якой у два разы меншы. Услед за гэтым у райцэнтры адбылася яшчэ адна прыемная падзея ўрачыстага адкрыцця абноўленага Дома рамёстваў. Яго дырэктар Міхаіл Багдановіч разам з кіраўніком раёна Віктарам Родзічам перарэзалі па традыцыі лентачку ў абноўленым будынку, у якім раней размяшчалася адно з міліцэйскіх падраздзяленняў Дэпартамента аховы МУС. Для амаль трохсот таленавітых адораных мясцовых творцаў, сярод якіх і лаўрэаты прэстыжных нацыянальных і міжнародных фестываляў і конкурсаў, тут пастараліся стварыць спрыяльныя ўмовы для паўсядзённай працы. Для іх з'явіліся акрамя персанальных майстэрань яшчэ і выставачная зала, вучэбныя класы саломапляцення, вышыўкі і разьбы па дрэве. У Доме рамёстваў стаў працаваць уласны салон-магазін, дзе арыгінальны сувенір можа набыць любы жадаючы. Няма, як раней, праблем з захоўваннем створаных лепшымі майстрамі калекцый, якія ў перспектыве стануць экспанатамі музея, а таксама з размяшчэннем выхаднай сыравіны для творчасці. Сам жа Дом рамёстваў ва Ушачах даволі малады, ён адкрыўся толькі 17 гадоў назад і не меў такіх спрыяльных умоў для дзейнасці, як цяпер. Талентаў у гэтым кутку Паазер'я шмат, і цяпер яны з натхненнем стануць яшчэ больш ладзіць штогод цікавых выстаў народнай творчасці і папулярных творчых вечарын.

**Докшыцкі раён**

# Найчасцей хвалюе газ

■ Чэслаў Якубовіч

**У перапынках паміж пасяджэннямі на сесіях і ў камісіях дэпутаты беларускага парламента рэгулярна выязджаюць у рэгіёны і сустракаюцца з насельніцтвам сваіх выбарчых акруг.**

Вось і старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ Уладзімір Андрэйчанка, дэпутат па акрузе № 22 зноў прыехаў у Докшыцы і правёў там чарговы выязны прыём сярод выбаршчыкаў, жыхароў раёна. Асаблівай актыўнасці з боку мясцовых жыхароў, праўда, не назіралася. Гэта можа сведчыць аб тым, што многія жыццёвыя праблемы людзей вырашаюцца мясцовым кіраўніцтвам. На гэты раз да спікера парламента звярнуліся са сваімі пытаннямі толькі тры чалавекі, двое з райцэнтра і жанчына з гарпасёлка Бягомля. Як высветлілася, у Бярэзінскім краі насельніцтва ў першую чаргу хвалюе пытанне перспектыў далейшай газіфікацыі раёна і праблемы з абслугоўваннем устаноўленага газавага абсталявання. Вось і двое мужчын з Докшыц паскардзіліся, што надта дарагое сервіснае абслугоўванне імпартных газавых катлоў, якое праводзяць спецыялісты з суседняга Глыбокага. Парламентарый, вопытнейшы ў мінулым кіраўнік вобласці, высветліў адразу, чаму ў мясцовым райгазе няма работнікаў такой кваліфікацыі і рэкамендаваў пачаць падрыхтоўку іх на месцы, стварыць запас неабходных запчастак. Складаней было кіраўніку парламента вырашыць другое пытанне аб павелічэнні крэдытных рэсурсаў на газіфікацыю, бо вельмі шмат жыхароў Бягомля жадаюць абзавесціся дабротамі цывілізацыі. Аднак У.Андрэйчанка цвёрда паабяцаў членам кааператыва заняцца іх праблемай і сказаў, што будзе хадатайнічаць аб дадатковым выдзяленні сродкаў на далейшую газіфікацыю ў гэтым раёне.

**Пастаўскі раён**

# Пагаслі вокны клубаў

■ Кастусь Александровіч

**Ужо відавочна, што беларуская вёска перажывае зараз сапраўдны крызіс і пакрыху вымірае.**

Гэтыя балючыя працэсы закранулі і адзін з самых буйных у вобласці Пастаўскі раён. Да новага навучальнага года тут закрылі яшчэ тры малакамплектныя школы, прычым адну сярэднюю ў аддаленым Казлоўшчынскім сельсавеце. Дарэчы, з пачатку новага стагоддзя спынілі сваю дзейнасць ужо 25 школ, бо не было каго там вучыць. Услед за школьнымі ўстановамі знікаюць калгасы, цэлыя сельсаветы і ўстановы сферы культуры. Напярэдадні прафесійнага свята культработнікаў на Пастаўшчыне прайшла іх аптымізацыя, назаўсёды зачыніліся нават 7 сельскіх клубаў. Асабліва балюча развітвацца было са сваім клубам-бібліятэкай жыхарам вёскі Груздава, у якой месціцца сельскагаспадарчы філіял аграбудпрадпрыемства "Рассвет Пастаўскі". Перад вайной там увогуле культурнае жыццё квітнела, вяскоўцы стварылі свой славуты цымбальны аркестр, які і ў Варшаве з Вільняй канцэрты даваў. Яго слава грымела і за савецкім часам, калектыў іграў на Цэнтральным, Беларускім тэлебачанні, шмат выступаў, пакуль былі жывыя сівыя музыканты. Аб вясёлых мінулых часах маладосці можна толькі ўспамінаць і жыхарам некалі буйных вёсак Стары Двор, Лучай, Муляры, Свіраны і іншых, дзе закрылі ўстановы культуры. Больш пашчасціла вяскоўцам у Шырках і Навінках, дзе засталіся сельскія бібліятэкі. Таксама на Пастаўшчыне больш няма і Лынтупскай і Навасёлкаўскай школ мастацтваў, праўда, яны сталі філіяламі адпаведных установ у райцэнтры і гарпасёлку Варапаеве.

# Аб самым надзённым

## У ЗАНЯПАДЗЕ НЕ ТОЛЬКІ НАШ ФУТБОЛ, ДЭГРАДУЕ ЎВЕСЬ БЕЛАРУСКІ СПОРТ




■ Аляксандр Цішкевіч

**На вялікі жаль, практычна няма сярод беларусаў футбалістаў сапраўднага еўрапейскага ўзроўню. Ды і самі айчынныя клубы нават эліты, за выключэннем БАТЭ, мінскага "Дынама" і бадай салігорскага "Шахцёра", бедныя, як царкоўныя мышы, ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, маюць даўгі па зарплаце і выплатах прэміяльных.**

З інтэрвалам у некалькі дзён па ўсім кантыненце прайшлі днямі чарговыя футбольныя матчы адборачнага турніру за пападанне на чэмпіянат Еўропы-2016. Душа проста радавалася за суседзяў палякаў, якіх сабралася на Нацыянальным стадыёне ў Варшаве больш 70 тысяч. Гульню іх нацыянальнай зборнай з чэмпіёнамі свету – немцамі трансліраваў у прамым эфіры расійскі тэлеканал "Расія 2". Месц свабодных на суперарэне не было, усе гледачы ў нацыянальных футболках з польскай сімволікай так актыўна падтрымлівалі сваіх, што палякі абыгралі непераможную раней Германію.

Крыху раней у польскай сталіцы адбыўся матч фіналу чэмпіянату свету па валейболе супраць сербаў і сабраў рэкордную аўдыторыю – 63 тысячы гледачоў. І зусім невыпадкова польскія валейбалісты сталі мацнейшымі на планеце. Дарэчы, у Еўропе людзі актыўна наведваюць спартыўныя арэны, падтрымліваюць сваіх, з цікавасцю праводзяць свой вольны час. Праўда, і ў беларускай сталіцы папулярнай стала "Мінск-Арэна" на хакейных матчах, але гэта – адзінае выключэнне з сумнай рэальнасці.

Узяць футбол, спорт № 1 па папулярнасці сярод чалавецтва. Вынік двух апошніх адборачных матчаў з удзелам нашай нацыянальнай зборнай супраць украінцаў і славакаў вельмі засмуціў і расчараваў. Пасля двух паражэнняў і нічыёй з ранейшым футбольным "карлікам" Люксембургам зборная Беларусі практычна пазбавілася шанцаў на пападанне ў турнір топ-узроўню. Перад гэтым і Мінск не трапіў у лік 13 гарадоў-шчаслівчыкаў, якія будуць прымаць гульні еўрапейскага першынства. Гэта ж абсурд, што наш галоўны 2-мільённы мегаполіс не мае ніводнага стадыёна сучаснага ўзроўню.

Адзінае выключэнне складае невялікая па ўмяшчальнасці новая арэна ў Барысаве. Там на гульні са зборнай Славакіі было ціха на трыбунах, стаяла такая цішыня, як на могілках, бо прыйшло крыху больш 3-х тысяч гледачоў. Што было потым, добра вядома, бо адправілі ў адстаўку галоўнага трэнера Г. Кандрацьева, зноў засталіся ля разбітага карыта. На вялікі жаль, практычна няма сярод беларусаў футбалістаў сапраўднага еўрапейскага ўзроўню. Ды і самі айчынныя клубы нават эліты, за выключэннем БАТЭ, мінскага "Дынама" і бадай салігорскага "Шахцёра", бедныя, як царкоўныя мышы, ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, маюць даўгі па зарплаце і выплатах прэміяльных.

Сітуацыя ў іншых гульнявых і астатніх відах беларускага спорту зараз таксама незайздросная. Нават вядучыя атлеты з сумам прызнаюць, што галіной кіруюць далёкія ад спорту людзі, як правіла, часовыя чыноўнікі ў чаканні адстаўкі за правалы і невыкананне медальных заданняў. Сам дзеючы новы міністр спорту і турызму РБ пажарны генерал, спартыўныя федэрацыі таксама ўзначальваюць людзі ў пагонах і ўплывовыя чыноўнікі. А з кожным годам у нас усё меней дасягненняў, ранейшых поспехаў.

Да прыкладу, у спартыўнай гімнастыцы на сусветным першынстве ў беларусаў лепшы вынік – 7-е месца ў адным з фіналаў. З апошняга чэмпіянату свету па лёгкай атлетыцы наша зборная не прывезла дамоў ніводнага медаля. Перасталі радаваць сваімі перамогамі барцы, валейбалісты, баскетбалісты, плыўцы, ды і ў старэючай хакейнай зборнай перспектывы незайздросныя, бо за лідарамі няма моцных маладых ігракоў. Беларусь становіцца ўсё меней канкурэнтназдольнай на спартыўных арэнах з-за няпростай сітуацыі ў эканоміцы, таксама слабеючага здароўя і старэння ў цэлым нацыі.

У нас толькі хакей адзіны абласканы дзяржаваю від спорту, які актыўна развіваюць толькі два дзясяткі дзяржаў свету. Але ж бягучы рэйтынг беларускай хакейнай зборнай у другой дзясятцы, яна можа, вельмі верагодна, зноў не прабіцца гуляць на новай зімовай Алімпіядзе. У бліжэйшыя гады нашы хакеісты будуць вырашаць асноўную задачу, як бы захаваць за сабой месца ў групе мацнейшых. Як і раней, заробкі ў дзіцячых трэнераў невялікія, у ДЮСШ прыходзіць займацца мала юнакоў і дзяўчат, а спартыўна-матэрыяльная база састарэла, асабліва ў глыбінцы, дзе многія школы не маюць спартыўных залаў.

Стадыёны ў малых гарадках маюць выгляд далёкі ад сучасных патрабаванняў. На спорт элементарна не хапае грошай, вось адкуль прычыны нашых паражэнняў і няўдач. Таксама квітнее толькі п'янства, а да здаровага ладу жыцця вельмі многім суайчыннікам вельмі далёка. Магчыма, і не трэба ў Беларусі развіваць столькі спартыўных дысцыплін, а сканцэнтраваць намаганні ў тым біятлоне, дзе адна беларуска Дар'я Домрачава робіць сапраўдны фурор, нагадвае свету, што ёсць такая невялікая дзяржава ў цэнтры Еўропы.

На гэту спартсменку, як і на лепшых футбалістаў таго ж БАТЭ стараюцца быць падобнымі юныя спартсмены. Забыты ранейшы савецкі лозунг ад масавасці да майстэрства трэба зрабіць зноў актуальным. Болей і дзеці павінны знаходзіцца на вольным паветры, плаваць зімой у басейнах, станавіцца на лыжы і канькі, а не сядзець гадзінамі ля камп'ютараў, А вось сам беларускі футбол патрэбна рэанімаваць, арганізоўваць футбольныя акадэміі, будаваць новыя палі і базы, праводзіць болей розных турніраў. З цягам часу тады і ў нас з'явіцца фізічна моцная, здаровая нацыя, прыдуць і да беларусаў новыя значныя перамогі і дасягненні.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 30.10.14 | | | | Пятніца 31.10.14 | | | | Субота 01.11.14 | | | | Нядзеля 02.11.14 | | | | Пн.03.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | -2 | +6 | +3 | +3 | +2 | +6 | +3 | +2 | +1 | +6 | +4 | +5 | +5 | +10 | +7 | +5 | +2 | +8 |
| Ціск | 753 | 752 | 752 | 753 | 754 | 755 | 756 | 756 | 756 | 756 | 755 | 754 | 752 | 752 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 |
| Вільготнасць | 86 | 99 | 74 | 91 | 95 | 100 | 86 | 91 | 90 | 100 | 90 | 93 | 94 | 100 | 91 | 93 | 91 | 100 | 75 |
| Вецер м/сек | 4 Ю-З | 3 Ю | 4 Ю-З | 4 З | 3 С-З | 3 С-З | 3 С-З | 2 С-З | 1 С-З | 1 Ю-З | 3 Ю-З | 3 Ю | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З |

## Дзень за днём

**У бліжэйшыя гады эксперты МВФ прадказалі мінімальны рост беларускай эканомікі. Прэзідэнт аб'явіў 2015-ы Годам моладзі. Ва ўрадзе Беларусі пацвердзілі, што рэзкага павышэння цэн на паслугі ЖКГ не будзе. Суд ЕС дазволіў беларусам уязджаць у Еўрасаюз з двума пашпартамі. Прыгранічны гандаль для беларусаў упарадкавалі да асартыментнага мінімуму і ўвялі ліміт на разлікі наяўнымі грашыма за тавары даражэй 150 млн. рублёў. З пачатку года ў Беларусі адбылося ўжо 10 тысяч кватэрных крадзяжоў, больш тысячы чалавек абрабавалі злодзеі-кішэннікі. Гэтай зімой беларусам стануць пагражаць два новыя вірусы грыпу.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іспанія.** Улады Каталоніі адмовіліся ад правядзення 9 лістапада рэферэндуму аб незалежнасці краю, замест яго пройдуць датэрміновыя рэгіянальныя выбары.

**Украіна.** Сярод псеўдалідараў "Наваросіі" расце раскол і адчай у людзей, сотні тысяч – без працы, знішчаны 600 прадпрыемстваў, 70 % медыкаў выехалі, закрыты 900 школ.

**Расія.** Палітолаг, вядучы навуковы супрацоўнік РАН РФ А. Піанткоўскі заявіў, што Пуцін ніколі не пакіне Украіну ў спакоі, ён поўнасцю паўтарае замашкі гітлераўскага 3-га Рэйха.

**Украіна.** Падчас "перамір'я" ў Данбасе з'явілася ўласная авіяцыя "Наваросіі", туды заехалі з Расіі яшчэ 40 аўтобусаў з баевікамі-добраахвотнікамі, 30 адзінак ваеннай тэхнікі.

**Германія.** Услед за іншымі лідарамі Захаду канцлер Ангела Меркель адмовілася сустракацца з Пуціным у Сочы, ён становіцца ізгоем, расце міжнародная ізаляцыя Расіі.

**Украіна.** МЗС краіны запатрабаваў ад Крамля адпусціць на свабоду 10 украінскіх палітзняволеных, сярод якіх ваенную лётчыцу Н. Саўчанка, рэжысёра А. Сянцова.

**Францыя.** Вядучы парыжскі эканаміст С. Гурыеў заявіў, што прыцягальнасць Расіі для замежных інвестараў падарвана назаўсёды, там вельмі хутка расце эканамічны крызіс.

**Расія.** Нягледзячы на валютныя інтэрвенцыі 6 мільярдаў долараў Нацбанка РФ, расійскі рубль працягвае імкліва падаць, людзі сталі паляваць за валютай, закрываць свае банкаўскія ўклады.

**Польшча.** Спецслужбы краіны затрымалі з доказамі шпіянажу на карысць Расіі высокапастаўленага ваеннага, які меў доступ да ваенных сакрэтаў і планаў НАТА.

**Кітай.** У горадзе Гуанчжоу адкрылася буйнейшая ў свеце Кантонская ярмарка, адтуль нават у Беларусь танней прывезці мэблю, адзенне, сантэхніку, чым купіць у сябе дома.

**Карэя.** Спецыялісты карпарацыі Samsung распрацавалі тэхналогію перадачы дадзеных Wi-Fi з хуткасцю да 5 гігабіт у секунду, фільм можна скачаць меней чым за 3 секунды.

**Японія.** Паміж сталіцай Токіо і горадам Аоморы запусцілі самы хуткі ў свеце поезд Hayadusa, які разганяецца да 500 км у гадзіну, яго ўжо заказалі амерыканцы.

**Малдова.** Згодна зменаў у Кодэксе законаў аб адукацыі рускую мову выключылі са спісу абавязковых для вывучэння школьных прадметаў, галоўнай стала англійская мова.

**Польшча.** Пасля ўмацавання злотага, у адрозненне ад Беларусі, цэны на польскіх АЗС ўпалі да мінімуму за апошнія 3 гады, літр бензіна і саляркі каштуе 1,5 – 1,6 долара.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск блаславіў заснаванне ў Мінску Тэалагічнай акадэміі імя св. Яна Паўла II для падрыхтоўкі святароў з вышэйшай адукацыяй і навукоўцаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка заклікаў Расію не "выпендрывацца" ў супрацьстаянні з Захадам, нагадаў Крамлю, што Смаленшчына, Пскоўшчына, Браншчына "належалі Беларусі".

**Мінск.** Падзенне сусветных цэн на нафту, як папярэдзіў былы прэм'ер-міністр М. Чыгір, вельмі балюча ўдарыць не толькі па Расіі, а ўслед за ёй пацерпіць дзяржбюджэт Беларусі.

**Брэст.** Толькі на чвэрць магутнасцей стаў працаваць стратны піўзавод, шмат праблем і ў ААТ "Крыніца", аднак з прыбыткамі працуюць прыватныя бровары Ліды, "Аліварыі".

**Мінск.** На пасяджэнні ўрада РБ прэм'ер-міністр М. Мясніковіч прызнаў вельмі няпростай сітуацыю ў эканоміцы і неабгрунтаваны рост цэн на прадукты харчавання.

**Бабруйск.** На мясцовым ваенным аэрадроме пасля прэзідэнцкіх выбараў аднак толькі ў 2016 годзе з'явіцца яшчэ адна расійская авіябаза самалётаў-знішчальнікаў Су-27.

**Мінск.** Адной з галоўных пагроз для краіны, як заявіў памочнік прэзідэнта Кірыл Руды, беларусы лічаць страту роднай беларускай мовы, таксама і нізкую нараджальнасць.

**Гродна.** Расійскім кампаніям, якія цікавяцца набыццём блок-пакета акцый ААТ "Гродна Азот" паабяцалі крыху знізіць кошт прадажы прадпрыемства, перамовы ідуць няпроста.

**Мінск.** Улады сталіцы прыгразілі ўсім даўжнікам за камунальныя паслугі па працягу больш двух месяцаў да 5 лістапада адключыць падачу электраэнергіі ў кватэры і дамы.

**Баранавічы.** У мясцовым дзяржаўным універсітэце віцэ-прэм'ер А. Тозік запатрабаваў ад рэктараў ВНУ, каб студэнты-платнікі поўнасцю аплочвалі ўсе расходы за навучанне.

**Валожын.** На былым стадыёне ў раённым цэнтры, дзе расстралялі вайной 200 яўрэяў, адмовіліся будаваць жылыя дамы, там створаць алею памяці ахвяр нацызму.

**Мінск.** Яшчэ двое маладых хлопцаў ва ўзросце 19 і 22 гадоў загінулі ў інтэрнаце пасля ўжывання псіхатропных рэчываў-спайсаў, так сёлета памерлі 11 маладых людзей.

**Бераставіца.** У адной з вёсак раёна 32-гадовая жанчына выкрала ключы ад дома суседкі і вынесла адтуль схаваных у шафе больш 3 тысяч долараў, частку іх патраціла да арышту.

**Мінск.** Падчас выпуску навін у прамым эфіры на тэлеканале АНТ здарыўся ляп: замест голасу карэспандэнткі раздаліся раптоўна словы, што яна нібыта выходзіць замуж.

**Лагойск.** У вёсцы Літвінкава п'яны 53-гадовы сусед мінчанін нацкаваў сваю каўказскую аўчарку на выкліканы нарад міліцыі, звера прыйшлося супрацоўнікам прыстрэліць.

**Мінск.** Міліцыя затрымала 18-гадовую студэнтку, якая ў пад'ездзе жылога дома напала на 69-гадовую пенсіянерку, двойчы ўдарыла яе нажом, забрала 20 тысяч, тэлефон, пашпарт.

# Індывідуальным прадпрымальнікам забароняць атрымліваць даход ад уласных кампаній



■ **Анастасія Гурына, Штодзённік**

**Непрыемнай навіной для прадпрымальнікаў у наступным годзе стане папраўка ў падатковае заканадаўства, якая тычыцца прымянення ССП, паведаміў «Штодзённіку» старшыня клуба фінансавых дырэктараў Андрэй Карпунін, які з'яўляецца членам Кансультатыўнага савета Міністэрства па падатках і зборах.**

Згодна з праектам нарматыўнага дакумента, ІП не змогуць прымяняць спрошчаную сістэму падаткаабкладання на сумы, атрыманыя ад юрыдычных асоб, у якіх яны з'яўляюцца заснавальнікамі і ўдзельнікамі (акрамя ААТ). Гэта ж тычыцца выплат ад кампаній, заснаваных іх блізкімі сваякамі - мужам і жонкай, бацькамі ці дзецьмі.

Міністэрства па падатках і зборах вырашыла пакласці канец ўпадабанай нашым прадпрымальнікам схеме, калі бізнэсмэны рэгістравалі сябе як ІП, падаючы сваёй кампаніі «кіраўніцкія паслугі». У якасці платы за дадзеныя паслугі многія перакладалі сабе ледзь ці не ўвесь даход сваёй кампаніі, выплачваючы потым падаткі па спрошчанай схеме.

«Дзяржава паглядзела на гэта некалькі гадоў і пабачыла, што зусім неадэкватныя сумы сыходзяць ад падаткаабкладання, - патлумачыў Андрэй Карпунін. - Прадпрымальнікі самі наклікалі бяду: занадта вялікія сумы яны праводзілі па такой схеме».

Новы закон ударыць у тым ліку па «ні ў чым не вінаватых» адвакатах, натарыусах і аўдытарах, якія цяпер таксама не змогуць прымяняць «спрошчаную сістэму падаткаабкладання».

З наступнага года ўрад таксама мае намер пазбавіць «спрошчанай сістэмы падаткаабкладання» і арандатараў памяшканняў, якія здаюць іх у субарэнду. Часта субарэнды мае месца ў вялікіх завадскіх памяшканнях або бізнэс-цэнтрах. Уладальнік здае памяшканне арандатару за 1 базавую, які потым перадаць плошчы за значна вялікія сумы, што абкладаюцца па ССП.

У наступным годзе ССП для іх адменяць. Закон заклiканы абараніць канчатковых карыстальнікаў. Аднак ён мае і негатыўны бок, адзначае Андрэй Карпунін. Буйным уласнікам плошчаў, у тым ліку заводам, якія раней афармлялі арэнду праз свае гандлёвыя дамы і іншыя дачныя структуры, прыйдзецца вярнуць сабе працу з тысячамі дробных арандатараў.

Апошнія праўкі ў праектах нарматыўных актаў Савет пры МПЗ узгадніў тыдзень таму. Магчыма, яны яшчэ будуць дапрацоўвацца. Паводле папярэдняй інфармацыі, новыя правілы ўступяць у сілу не адразу з 1 студзеня, а пазней.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Амаль 100 рускіх журналістаў з федэральных і рэгіянальных СМІ на працягу трох дзён за дзяржаўны кошт вазілі і кармілі па вобласці падчас чарговага прэс-тура.

**Наваполацк.** Пасля спынення ў жніўні на капітальны рамонт мясцовага НПЗ Беларусь на чвэрць знізіла экспарт нафтапрадуктаў, з пачатку года краіна зарабіла на іх 7,2 мільярда долараў.

**Орша.** А. Лукашэнка прыгразіў кіраўніцтву ўкраінскай фірмы "Матор Січ", што набыты ёй мясцовы авіярамонтны завод можа быць вернуты дзяржаве пры яго дрэннай рабоце.

**Віцебск.** Па падазрэнні ў ліхаманцы Эбола ў абласным цэнтры шпіталізавалі з высокай тэмпературай і абследавалі студэнта з Нігерыіі, але страшны дыягназ не пацвердзіўся.

**Полацк.** Гандлёвыя сеткі Новасібірска, Смаленска і Санкт-Пецярбурга праявілі цікавасць да цэльнамалочнай прадукцыі і сыркоў 26 % тлустасці мясцовага малочнага камбіната.

**Глыбокае.** Абласная пракуратура выявіла ў раёне і ў іншых рэгіёнах вобласці шэраг аварыйных балконаў з ненадзейнымі канструкцыямі, пагражаюць бяспецы і казыркі дамоў

**Орша.** Пасля трох дзён п'янкі ў доме бабулі-пенсіянеркі ў Барані 20-гадовы аршанец у прысутнасці сабутэльнікаў нажом ледзь не забіў сваю родную 67-гадовую жанчыну.

**Мёры.** Суд пакараў 26-гадовую прадаўшчыцу 3 гадамі турмы з адтэрміноўкай прыгавору за інсцэніроўку крадзяжу ў магазіне, яна кампенсавала нанесены ўрон райпо.

**Ушачы.** Ва ўрачыстай абстаноўцы ў райцэнтры адкрылі новы Дом рамёстваў з выставачнай залай пасля рэканструкцыі будынка Дэпартамента аховы МУС Беларусі.

**Лёзна.** Да 71-й гадавіны вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў зноў правялі акцыю "Ветэран жыве побач", ім аказалі дапамогу ў гаспадарцы, уручылі падарункі.

**Паставы.** Услед за 3 школамі ў раёне закрылі яшчэ 7 устаноў культуры, клубаў і бібліятэк у Мулярах, Норыцы, Свіранах, Груздава, Чорным, Лучаі, Старым Двары.

**Віцебск.** Падатковыя органы праверылі сёлета 56 суб'ектаў гаспадарання і выявілі, што больш 50 прадпрымальнікаў выплочвалі заробкі сваім работнікам у "канвертах".

**Полацк.** Свята аддаленай вёскі Малое Сітна з насельніцтвам 380 атрымалася сёлета асабліва радасным, бо для людзей адкрылі зноў ФАП, сельмаг і клуб-бібліятэку.

**Орша.** Міліцыя затрымала 34-гадовую расіянку, якая прадставілася "сацыяльным работнікам" і ўкрала ў 89-гадовага пенсіянера буйную суму грошай.

**Віцебск.** Рэктар дзяржакадэміі ветэрынарнай медыцыны ўзяў на працу адразу 4-х выкладчыкаў, прафесараў і дацэнтаў з Данбаса, іх забяспечылі жыллём у інтэрнаце.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# “І я рабіў усё, што мог...”

## Пяць год таму памёр віленскі беларускі дзяяч Юры Гіль

■ Кастусь Шыталь

**У засценку Вашунава, пры чыгунцы Маладзечна – Полацк, недалёка ад станцыі Параф’янава, стаіць незвычайная хата. Вялікімі літарамі на франтоне напісана “Жыве Беларусь!” Рукой самавука намаляваны буслы, а знізу словы: “Бусел на хаце – мір на зямлі”. “Родны кут каханы, тут пуп мой недзе закапаны”,– яшчэ адзін надпіс.**

Акуратная шыльда паведамляе, што ў хаце месціцца этнаграфічны музей “Засцянковая хатка” Таварыства беларускай мовы Віленскага краю. Але вокны закрытыя наглуха, дзверы забітыя, двор парос бур’яном. У прыбудоўцы з дзіравым дахам мокнуць саматканыя посцілкі і віленскія газеты пачатку 90-х.

Пяць год таму гаспадар гэтай хаты-музея, Юры Гіль, адышоў у лепшы свет. Ён нарадзіўся ў Вашунаве падчас нямецкай акупацыі, 11 студзеня 1942 года. Стаў дарослым і паехаў у вялікі свет – служыў у Калінінградзе, вучыўся ў Мінску, настаўнічаў у Докшыцкім раёне. Пры Саветах быў у КПСС, падчас Перабудовы стаў актывістам БНФ.

У гады Перабудовы Юры Гіль пераехаў у Вільню, як і многія патрыёты, якія марылі пра адраджэнне там асяродка беларускай культуры. Ён заснаваў Таварыства беларускай мовы Віленскага краю, дбаў пра ўшанаванне памяці беларускіх дзеячоў на Віленшчыне. Пяць год быў дэпутатам самакіравання Віленскага раёна.

Юры Гіль клапаціўся пра ўшанаванне памяці беларускага паэта Францішка Багушэвіча. На радзіме паэта ў фальварку Свіраны пад Вільняй ён з аднадумцамі штогод ладзіў мерапрыемствы ў гонар Багушэвіча. Яго намаганнямі былі пастаўленыя мемарыяльныя дошкі ў фальварку Свіраны і суседняй вёсцы Савічуны. Бібліятэка і вуліца ў Савічунах былі названыя ў гонар Багушэвіча.

У наваколлі Гіль і сябры паставілі крыж у памяць паўстанцаў, палеглых у 1863 годзе. У Свіранах была ўсталяваная шыльда ў гонар каталіцкіх святароў, якія ў міжваенны час пачалі прапаведваць па-беларуску.

Юры Гіль дамогся, каб адна з вуліц у мястэчку Лаварышкі была названая ў гонар Браніслава Тарашкевіча, палітыка і аўтара першай беларускай граматыкі.

Юры Гіль не забываўся і пра роднае Вашунава. “Для мяне Ты, родная Беларусь, пачынаешся на зямлі Тваёй, дзе я нарадзіўся і дзе закапаны мой пуп. Гэта Вашунава, гэта хата маіх бацькоў”, – пісаў ён. У бацькоўскай хаце Гіль стварыў этнаграфічны музей, які назваў імёнем сваіх бацькоў Пятра і Феліцыі. Ён ладзіў у Вашунаве святы роднай мовы, на якія збіраліся сваякі, сябры і аднадумцы Гіля.

Яшчэ адна памятка, якую па сабе пакінуў Юры Гіль – магілы бацькоў у Параф’янаве. Над імі пастаўлены самы высокі на ўсіх могілках крыж. Помнікі падпісаныя па-беларуску. “Вы ўсё зрабілі, што змаглі, а потым побач тут ляглі. І я рабіў усё, што мог, І лягу тут у вашых ног”, – чатырохрадкоўе на магіле.

Сярод пахаванняў змешчана пліта з вершам-малітвай за Беларусь. Заклік да Міхала Арханёла. Жорнавае кола. Фігуры Дзевы Марыі і Ісуса Хрыста. Своеасаблівы сямейны некропаль, у якім Гіль выявіў любоў да бацькоў і Бацькаўшчыны. Тут быў пахаваны і сам Юры Гіль. Ён памёр 24 кастрычніка 2009 года. Сваякі дагэтуль не паставілі яму помнік.

Юрыя Гіля – беларускага патрыёта, хрысціянскага верніка і добрага чалавека – будуць памятаць не толькі сваякі, але і шматлікія сябры і аднадумцы.

Вечны супакой дай яму, Госпадзе!



Юры Гіль. Фота з віленскай газеты “Рунь”.




На жаль, “Засцянковая хатка” пасля смерці гаспадара прыходзіць у заняпад.




Сямейны некропаль Гілёў на могілках у Параф’янаве. Магіла Юрыя Гіля адзначана драўляным крыжам. *Фота Кастуся Шыталя.*

# Іларыёнаў: Пасля вайны РФ згубіць Смаленск і Бранск, якія адыдуць Беларусі

**Паражэнне ў вайне, развязанай Пуціным ва Украіне, абернецца тэрытарыяльнымі стратамі для Расіі.**

На яе могуць ускласці шэраг абавязацельстваў па вяртанні гістарычных тэрыторый суседніх дзяржаў. Пра гэта піша ў сваім блогу былы дарадца Уладзіміра Пуціна эканаміст Андрэй Іларыёнаў.

«У выпадку развязвання маштабнага ваеннага канфлікту супраць значнай часткі сучаснага свету цяперашняя Расія хутчэй за ўсё будзе мець справу з кааліцыяй дзяржаў, сукупная ваенная, эканамічная, дэмаграфічная моц якіх пераўзыходзіць расійскія паказчыкі, як мінімум, у 16-18 разоў. Вынік такога супрацьстаяння прадказальны. Расія будзе разгромлена, яе эканамічны, жыллёвы, інфраструктурны патэнцыялы будуць разбураныя. На велізарных тэрыторыях будзе спынена электра-, вода-і газазабеспячэнне. Паўстане пагроза голаду і масавых эпідэмій. Пры такіх жа суадносінах страт, якія былі прадэманстраваныя ў папярэдніх сусветных войнах, колькасць ахвяр новага ваеннага канфлікту можа складці дзясяткі мільёнаў чалавек. Значная частка Расіі можа быць акупаваная войскамі замежных дзяржаў, якія ўстановяць акупацыйны рэжым», — мяркуе Андрэй Іларыёнаў.

Расія, паводле яго слоў, можа пазбавіцца тых эрыторый, па якіх перыядычна ўзнікаюць пэўныя прэтэнзіі.

«Пыталаўскі раён Пскоўскай вобласці пяройдзе Латвіі, Кінгісепскі раён Ленінградскай вобласці — Эстоніі, поўнач Карэльскага перашыйка, Прыладажская Карэлія, Печанга — Фінляндыі, Смаленская і Бранская вобласць – Беларусі, Варонежская і Растоўская вобласці, а таксама Краснадарскі край — Украіне, значныя тэрыторыі Заходняй Сібіры — Казахстану, не менш 1,5 млн квадратных кіламетраў Сібіры і Далёкага Усходу — Кітаю, Курыльскія выспы і Сахалін — Японіі», — піша ён.

Андрэй Іларыёнаў не выключае, што газавыя і нафтавыя радовішчы, банкаўская сістэма і магістральныя трубаправоды могуць перайсці пад міжнародны кантроль.

«Калі расіяне пагодзяцца аддаць Украіне Крым? У выпадку прамой агрэсіі супраць значнай часткі сучаснага свету з боку РФ, краіна будзе разгромлена, яе патэнцыял будзе цалкам разбураны, а на велізарных тэрыторыях паўстане пагроза голаду і эпідэмій.

Абсалютная большасць тых, хто выжыў ва ўмовах страшнага ваеннага канфлікту расійскіх грамадзян шчыра падтрымае намер часовага ўрада (вар.: неадкладна і жорстка запатрабуе ад яго) неадкладна і безумоўна перадаць Крымскі паўвостраў яго безумоўнаму ўласніку — брацкай Украіне, аднаўленне нармальных дыпламатычных, эканамічных, чалавечых адносін з якой стане тады першачарговай задачай, якая адраджаецца пасля жахлівай катастрофы расійскага грамадства. Нашмат працэй для Расіі добраахвотна вярнуць Крым да пачатку рэалізацыі страшнага сцэнара», — заключае ён.

***nn.by***



Смаленск. Касцёл Найсвяцейшай Панны Марыі, які пабудаваны ў 1896 г па праекце беларускага дойліда Лявона Вітан-Дубейкаўскага, аднаго з дзеячоў беларускага адраджэнскага руху.

# Ліса па мянушцы Ліза жыве ў прыватным доме ў Паставах



**Даведаўшыся, што ў Паставах у прыватным доме жыве лісіца, мы адмыслова з'ездзілі ў Паставы, каб на ўласныя вочы гэта пабачыць і пагутарыць з гаспадыняй дома Вольгай Вярцінскай.**

**– Распавядзіце, калі ласка, як яна да вас трапіла?**

– Лісічку нам прынеслі нашы знаёмыя. Яны рабілі якіясьці сельскагаспадарчыя працы ў вёсцы і знайшлі гняздо з лісянятамі. Калі яны прыйшлі туды на наступны дзень, то ўбачылі, што лісіца кінула ў гняздзе дваіх лісянят. Ім стала іх шкада, і яны іх забралі дамоў. Лісяняты былі яшчэ сляпыя, яны трымалі іх дома каля двух тыдняў, а можа і больш. Калі лісяняты падраслі, (а знаёмыя жылі ў адным пакоі з імі ў інтэрнаце), то сталі наводзіць беспарадак. Яны звярнуліся да нас, каб мы ўзялі адно лісяня да сябе. Мы калісьці трымалі трусоў, у нас засталіся клеткі, таксама ў нас два каты і два сабакі, таму яны і звярнуліся да нас. Вось мы так і ўзялі лісічку, далі ёй прытулак, а потым палюбілі яе.

**– І вы адразу пагадзіліся ўзяць да сябе лісічку?**

– Не, я была катэгарычна супраць. Я як жанчына ўяўляла, што мяне чакае. Але муж настаяў на сваім, сказаў: ”Трэба!” Вось так і стала яна ў нас жыць.

**– Але ж скажыце, у чым складанасць у доглядзе за лісіцай? Усё ж гэта не кот і не сабака.**

– Лісы, наогул, гэта сямейства сабачых. Яна як сабака. І есць усё тое, што і сабака. Мы ёй даём усё тое, што і сваім сабакам. Найперш гэта сухі корм. Таксама яна есць усё з нашага стала. Яна вельмі любіць сырнікі, таксама сыр, печаную рыбу. Мы ёй не даем сырога мяса і рыбы па той прычыне, што калі яна есць сырое мяса, то ў яе праяўляюцца звярыныя інстынкты, яна становіцца больш агрэсіўнай, не хоча слухацца.

**– А як успрынялі лісіцу вашы хатнія жывёлы?**

– З катом яны сябры з першага дня. Кот адразу яе прыняў, яна тады была па памерах у два разы меншая за ката, яна памяшчалася на далоні. А вось кошка наадварот, аднеслася да лісічкі вельмі непрыязна, яна нават першыя дні не заходзіла ў дом, а потым стала ставіцца да яе агрэсіўна, спрабавала яе пакрыўдзіць. Таму ліса да сённяшняга дня ўсё гэта памятае і помсціць кошцы. А яна ўжо ў тры разы большая за кошку.

**– А што вы надалей збіраецеся з ёй рабіць: будзеце далей гадаваць або выпусціце ў лес?**

– Калі мы яе бралі, то пра гэта не думалі. Яна была тады зусім бездапаможная, кінутая сваімі бацькамі. На сённяшні дзень яна ўжо можа самастойна пражыць, бо ў яе маецца генная памяць, яна ўжо моцная, прывітая. Але ці захоча яна гэтага сама?

У нас ужо былі выпадкі, калі яна збягала з дому, але далей двара яна не ўцякала. Яна таксама сябруе з нашымі сабакамі, гуляе з імі разам.





**– Гэта ўжо, напэўна, член вашай сям’і?**

– Ну так. Дарэчы, яна таксама вельмі добра асіміліравалася ў нашу сям’ю. Калі мы позна вяртаемся дадому, яна злуецца на нас, крычыць. Садзіцца з намі побач і крычыць, я нават і не ведала, што лісы могуць так крычаць. Такім чынам яна паказвае сваё незадавальненне.

**– А што вы яшчэ можаце расказаць пра сваю лісічку? Што яна любіць, што не?**

– Ну, па паводзінах яна хутчэй за ўсё – кот. Калі знешне яна больш падобна на сабаку, то і па характару на сабаку. Яна такая ж незалежная, прымае ласку тады, калі яна сама гэтага хоча. Яна спрабуе дамінаваць, дыктаваць свае ўмовы. І калі гэта нам не перашкаджае, мы ёй гэта дазваляем. Лісічка вельмі любіць капаць, адпаведна яна адрывае плінтусы. Некалькі з іх адарваныя і зараз. Яна вельмі дапытлівая і цікавая, і яшчэ б я адзначыла, што добразычлівая. І вельмі хітрая. Калі яна недзе нашкодзіць, то адразу прыходзіць, лашчыцца, вылізвае пальцы на руках. Такім чынам яна хоча змякчыць пакаранне.

**– Яна адпавядае той хітрай лісіцы, якую паказваюць у казках?**

– Ну, так. Відаць, раней людзі ўсё ж спрабавалі прыручыць лісіцу, спрабавалі іх трымаць, таму гэта, на маю думку, і ўзнікла з людскога досведу. Пакуль яна нам не стварае нязручнасцей, яна прыносіць нам адзін пазітыў. З ёй нашмат цікавей, чым з сабакам або катом. Яна хутка становіцца дарослай, мяняецца яе характар. Яна ўмее прыстасавацца, зразумець наш настрой, яна ўмее заняць тую нішу псіхалагічнай прасторы, якая ёй у дадзены момант дазволена.

Лісічка ніколі не навязвае сябе нам, калі ёй хочацца пагуляць, яна прапануе гэта і нам. Прыносіць нам цацку і прапануе з ёй гуляць. Калі ж я занятая на кухні, то яна тады скрадзе ручніу або што іншае, прымушаючы такім чынам да гульні. Калі ж у мяне часам няма настрою, то яна гэта бачыць і пакідае мяне ў спакоі.

Ліса любіць гуляць з мяккімі цацкамі, асабліва ж ёй падабаецца грызці гумовыя пальчаткі. Таксама яна крадзе ў мужа яго інструмент, свярдзёлкі розныя, адвёрткі. Калі ж мы пакінем часы на тумбачцы, то абавязкова ўкрадзе і схавае пад дыван. Яшчэ яна вельмі любіць мыцца, калі прыходзіць з прагулкі. Ну і таксама ёй падабаецца красці ў нас цукеркі.

**– А як вы яе назвалі?**

– Яе завуць Ліза. Лізка. Мы яе звалі спачатку Ліска, ну а потым узнікла гэта мянушка.

**– Што ж, поспехаў вам!**

*Гутарылі Таццяна Смоткіна і Зміцер Лупач*

# У Паставах працуе сталоўка «СССР»

**Яна карыстаецца папулярнасцю ў жыхароў і гасцей горада.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Сталоўка аформлена ў стылі савецкіх часоў: на сценах вісяць плакаты ў стылі той эпохі, партрэты правадыроў. Належыць яна Пастаўскаму спажывецкаму таварыству.

Як паведамілі супрацоўнікі гэтай установы, у дзень тут бывае звыш пяцідзесяці наведвальнікаў. Спраўляюць тут таксама карпаратывы. Асобай папулярнасцю карыстаецца сталоўка ў адстаўных афіцэраў, якіх у Паставах шмат, бо за часамі СССР тут размяшчаліся ракетная і авіяцыйная часці.

Комплексны абед каштуе тут прыкладна 30 тысяч рублёў, што і прыцягвае наведвальнікаў. Праўда, падчас нашага наведвання сталоўка была закрыта на рэвізію, што цалкам апраўдвала яе назву, бо так рабілася і за савецкімі часамі. Нам пашанцавала, што непадалёк была прыватная кавярня, куды мы і выправіліся, каб перакусіць.



Але ў тым, што сталоўка была зачынена для наведвальнікаў быў і свой плюс, нам удалося паздымаць інтэр’ер, а таксама паглядзець кнігу заўваг і прапаноў. Па словах супрацоўнікаў сталоўкі, заўваг у іх пакуль няма, а вось падзяк шмат. Асабліва кінулася ў вочы адна з апошніх, дзе наведвальнік прапануе гатаваць “цыпіліны і дранікі с мясам”. Заканчваецца ж прапанова так: “ Калі хочацца жэрці, то давайце жэрці ў вас”. І ўнізе рэзалюцыя начальства: “Принято к сведению”. Што ж, нічога не скажаш, па-савецку.



# У камайскім касцёле аднавілі старадаўнія фрэскі

Сярод фрэсак ёсць і герб “Пагоня”. Асвячэнне фрэсак па запрашэнні пробашча парафіі ў Камаях кс. Яцэка Хутмана *(на здымку)* правёў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

*Зміцер Лупач*

# "Хутка зіма – рыхтуемся разам!"

## 31 кастрычніка – Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху

**Усе пагодзяцца, што шыны – тое адзінае, што звязвае аўтамабіль з дарогай. І гэта досыць важкая прычына, каб прымусіць кіроўцаў задумацца над выбарам «правільных» пакрышак, усталяваўшы якія, ён можа быць упэўнены ў бяспецы – уласнай і пасажыраў.**

■ **М.А. Цынковіч,** *старэйшы інспектар ІДПН АДАІ Глыбоцкага РАНС, маёр міліцыі*

Узімку эксплуатаваць аўтамабіль значна складаней і небяспечней, чым улетку. А ўсё таму, што гума пратэктара ўсесезонных, а ў асаблівасці летніх шын, на марозе становіцца цвёрдай,ператвараючы колы ў дубовыя слізгальныя каткі. Снег, што ляжыць на дарозе, становіцца праслойкай паміж пратэктарам і асфальтам, а лёд, што ўтварыўся на дарозе, робіць яе яшчэ больш небяспечнай. Пакрышкі мяняюць для аптымізацыі кіравання аўтамабілем пры змене ўмоў навакольнага асяроддзя.

Наогул усе зімовыя шыны можна падзяліць на дзве групы - шыпаваныя і не шыпаваныя, якія часам называюць фрыкцыйнымі. Выбіраць тыя ці іншыя варта ў залежнасці ад умоў эксплуатацыі. Калі вы ўпэўнены, што вам часта давядзецца ездзіць па лёдзе, неабчышчаных ад снегу дарогах або вы жывяце ў пагорыстай мясцовасці, аддаць перавагу трэба шыпаваным шынам. Яны таксама больш падыходзяць для заднепрывадных аўтамабіляў, якія на зімовай дарозе і асабліва ў разгружаным стане схільныя да заносу.

Зімовыя шыны таксама могуць быць з накіраваным або ненакіраваным малюнкам пратэктара. «Накіраваныя», якія маюць V-вобразную форму, лепш выдаляюць з месца кантакту ваду, бруд і снежную «кашу», менш шумяць. Яны больш падыходзяць для «мяккай» зімы. Для заснежаных дарог лепш шыны з ненакіраваным малюнкам пратэктара, у канструкцыі якога маюцца буйныя блок-шашачкі.

Выкарыстанне зімовых шын дае цэлы шэраг пераваг - скарачаецца тармазны шлях, павышаецца ўстойлівасць, паляпшаецца кіравальнасць, дынамічныя паказчыкі і значна зніжаецца верагоднасць патрапіць на аўтамабілі ў аварыйныя сітуацыі.

Можаце быць упэўненыя, што ніякія грашовыя выдаткі не ідуць у параўнанне са здароўем і жыццём, якія Вы можаце страціць, сэканоміўшы на гуме, якая не адпавядае ўмовам надвор'я!




# Нясправунасці электраправодкі: чым яны небяспечныя і як іх прадухіліць?




**Электрычнасць з'яўляецца крыніцай энергіі і прыносіць карысць да таго часу, пакуль не выйдзе з-пад кантролю. Вырваўшыся на свабоду, яна можа стварыць нямала бедаў, галоўная з якіх пажар.**

■ **Ішуцін А.Н.,** *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА «Энерганагляду»*

Адной з прычынаў пажаранебяспечных сітуацый з'яўляецца, вядома ж, няспраўная электраправодка. Неабходна сачыць за станам ізаляцыі правадоў і кабеляў, своечасова праводзіць замену пашкоджаных. Таксама вялікую небяспеку ў пажарным плане ўяўляе старая праводка. З часам ізаляцыя такіх правадоў проста высыхае, трэскаецца і абсыпаецца, што можа прывесці да кароткага замыкання і ўзгарання памяшканняў.

Прычынай падвышанай пажаранебяспекі можа стаць недастатковае сячэнне токаправодзячых жылаў.

Пашкоджанне ізаляцыі правадоў можа прывесці да такой няспраўнасці, як уцечка. Гэта верагоднасць таго, што ў пэўных умовах частка энергіі можа пайсці не туды, куды трэба...

Вядома, што няспраўная электраправодка прыводзіць да кароткага замыкання, ад яго часцей за ўсё і ўзнікае ўзгаранне. Пра гэта часцей за ўсё згадваецца ў пажарных справаздачах.

У хатніх умовах у аднафазнай сетцы наступствы кароткага замыкання могуць атрымацца досыць вялікімі. Дрот, што расплавіўся, спаліць ізаляцыю, паляцяць у розныя бакі іскры, пырскі расплаўленага металу. Калі побач будуць самаўзгаральныя прадметы, то чакай пажару. Таму самае страшнае, што можа здарыцца ў электраправодцы, гэта кароткае замыканне.

Прычын узнікнення кароткага замыкання некалькі, і яны досыць простыя. Гэта нізкая якасць ізаляцыі, няправільны мантаж электраправодкі, дрэнны кантакт у злучэннях праводкі і электрапрыбораў.

Каб гэтага не адбылося, трэба выконваць наступныя рэкамендацыі.

- Важна не дапускаць эксплуатацыі старых кабеляў з пашкоджанай ізаляцыяй, своечасова іх замяняць.
- Перш, чым праводзіць свідраванне або бурэнне сцен, варта праверыць, не ці праходзіць у гэтым месцы электраправодка. Для гэтых мэтаў цяпер прадаюцца шукальнікі схаванай праводкі.
- Перш, чым праводзіць працы з праводкай, яе неабходна абясточыць. Ісціна, быццам бы, прапісная, але не ўсе і не заўсёды, на жаль, яе выконваюць.
- Каб не дапусціць кароткага замыкання, у сетцы варта ўсталяваць ахоўныя прылады. У найпростым выпадку гэта плаўкія ўстаўкі-засцерагальнікі, а згодна з сучасным патрабаваннем гэта аўтаматычныя выключальнікі, ПАА (УЗО) і дыферэнцыяльныя аўтаматы.
- Састарэлыя разеткі і выключальнікі, якія іскраць пры працы, варта своечасова замяняць на новыя: ад пастаяннага іскрэння магчыма разбурэнне ізаляцыі, а затым ўсё, што ўжо было апісана вышэй. Своечасова замяняць выключальнікі і разеткі, якія маюць трэшчыны корпуса і сляды сажы.
- Варта не ўжываць няспраўных электрапрыбораў, якія іскраць пры працы.
- Пры мантажы праводкі дрот, калі ёсць магчымасць, не варта размяшчаць занадта цесна, скручваць яго пучком. Гэта можа прывесці да пашкоджання ізаляцыі ўжо ў працэсе мантажу.

Гэтыя простыя рэкамендацыі дазволяць пазбегнуць кароткага замыкання, і як вынік, пажару.

# Не парушайце Правілы палявання!

**З надыходам кастрычніка адкрыўся асенне-зімовы сезон палявання і шмат хто з паляўнічых, не марудзячы, накіраваўся на паляванне.**

■ **В.Я. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Аднак, далёка не ўсе палююць законна і законнымі спосабамі. Вельмі часта, палююць на пушнога звера, зайца, лісу, куніцу або норку, паляўнічыя маюць пры сабе кулявыя патроны і карцеч, што забаронена Правіламі і з'яўляецца парушэннем, затрыманыя супрацоўнікамі інспекцыі грамадзяне прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці, якая прадугледжвае штраф да 30 базавых велічынь або пазбаўленне спецыяльнага права, г.зн. права палявання да 5 гадоў. Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца палявання ў другое не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правілаў палявання. Вінаватыя ў гэтым нясуць адміністрацыйную адказнасць, такія пераезды з неразраджанай і не зачахлёнай зброяй могуць прывесці да трагедыі. Толькі за адзін кастрычнік супрацоўнікамі інспекцыі вобласці выяўлена больш за 30 грубых парушэнняў Правілаў палявання, усе вінаватыя прыцягнуты да адказнасці. У сувязі з адкрыццём палявання на зайца неабходна яшчэ раз нагадаць тэрміны і спосабы законнага палявання.

З 1 кастрычніка па 30 снежня адкрылася асенне-зімовае паляванне ружэйным спосабам: загонам, з засады, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня 2015 года дазваляецца паляванне на зайца-беляка, зайца-русака ружэйным спосабам з засады, з падыходу, загонам.

З 1 верасня па 31 сакавіка ў светлы час сутак дазваляецца здабыча бабра, выдры ружэйным спосабам із засады, падыходу.

З першай суботы лістапада па апошнюю нядзелю студзеня дазваляецца здабыча куніцы лясной, каменнай, тхара ляснога, норкі амерыканскай, гарнастая, вавёркі. (У выпадку змены тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова).

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць міжвольным іх парушальнікам.

**Аб усіх правапарушэннях Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 2-86-70 (кругласутачна), маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (МТС).**



# Маеш незаконную зброю? Здай яе ў міліцыю!

**Глыбоцкі РАУС інфармуе, што з 27 па 29 кастрычніка 2014 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіліся аператыўна-прафілактычныя спецыяльныя комплексныя мерапрыемствы "Арсенал".**

■ **В.Д. Барыла,** *старэйшы інспектар па дазваленчай рабоце Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі*



Мэта аперацыі: супрацьдзеянне незаконнаму абароту зброі, боепрыпасаў, выбуховых прылад і выбуховых рэчываў, аздараўленне крымінагеннай абстаноўкі, звязанай з іх прымяненнем, а таксама выяўленне ўладальнікаў паляўнічай зброі, якія парушаюць правілы яе захоўвання.

Нагадваем, што асобы, якія добраахвотна здалі зброю, вызваляюцца ад адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці.

Неабходную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: 2-26-82 (аддзел аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС), 597-21-74 (МТС), 314-89-02 (Velcom), 2-27-02 і 102 (аператыўна-дзяжурная служба Глыбоцкага РАУС).

Загадзя ўдзячныя за прадастаўленне любой інфармацыі, якая тычыцца незаконнага абароту зброі.

## МНС інфармуе
**на 28.10.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 891;
Гібель людзей – 95, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 30;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон –750.87 млн. руб.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 3 лістапада

### БЕЛАРУСЬ 1

**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Новости.
**07.05, 08.05** Новости экономики.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** «Вечная любовь».
**11.00, 13.00, 16.00** 90 секунд.
**12.10** Комедия **«Старики-разбойники»** (СССР).
**13.50, 15.55** Мелодрама **«Бабушка на сносях»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**15.15, 18.40** Новости региона.
**17.30** Белорусское времечко.
**19.20** Арена.
**19.40, 00.00** «Зона Х».
**20.00** Форум с Дмитрием Бочковым.
**21.00** Панорама.
**21.45 «След»** (Россия).
**23.40** Актуальное интервью.
**00.40** День спорта.
**00.50** Мелодрама **«Белое платье»** (Россия).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.20** Фильм **«Дело было в Пенькове».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Фильм **«Дело было в Пенькове».** Продолжение.
**12.15** Комедия **«Полосатый рейс».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Комедия **«Полосатый рейс».** Продолжение.
**14.00** Фильм «Поклонница».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. «Лермонтов».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «8 мм. Параллельное кино».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** Фильм **«Любовь в большом городе 2».**
**23.55** Премьера. «Александр Градский. Обернитесь!».
**00.55** Ночные новости.



### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Сашка»** (Украина).
**10.05** Телебарометр.
**10.35** Под грифом «Известные».
**11.15** Иронический детектив **«Умник»** (Россия).
**13.10 «Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**15.30** «Comedy Баттл. Без границ»
**16.40 «Сашка»** (Украина).
**17.50 «Такси»**
**18.50 «Универ»**
**20.55** Реальный мир.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Телебарометр.
**21.35 «Виртуозы»**
**22.45 «Кулинар-2»**
**23.45** Хочу в телевизор!
**23.50 «Такси»**
**00.25** «Хали-гали». Скетч-шоу.

### СТВ

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.45** «Большой завтрак»
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.40** «Семейные драмы».
**12.35** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Дальние родственники».
**14.20** «Звездный ринг. Битва хитов». Группа «CRASH» против группы «Ё-гурт и Анна Шалютина».
**15.30** «Другая страна». «Армения: государство с выдержкой».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Странное дело».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Поющие города». Дневник. Минская область.
**20.20** «Кино»: **«ИСКУССТВО ШАОЛИНЯ: ЗМЕЯ И ЖУРАВЛЬ»**. Гонконг - Тайвань, 1978 г.
**22.20** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».

**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».

### БЕЛСАТ

**7:00** ПраСвет
**7:35** Форум (ток-шоу): Мова ці палітыка?
**8:20** Два на два (тэледыскусія): Зянон Пазняк і Алег Трусаў
**8:55** Зона «Свабоды»
**9:30 «Mad Men. Утрапёныя-II»**, серыял
**10:20** Дак. гадзіна: «Намібія. Генацыд Другога Райху»
**11:15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма)
**11:25** ПраСвет
**12:00** Два на два (тэледыскусія): Зянон Пазняк і Алег Трусаў
**12:30** Эксперт (сатырычная праграма)



**13:00** Зона «Свабоды»
**13:35 «Кава і цыгарэты»**
**15:10** Дак. гадзіна: «Намібія. Генацыд Другога Райху»
**16:05 «Mad Men. Утрапёныя-II»**, серыял
**16:50** «Ваўчыная маці»
**17:20 «Час гонару»**, серыял
**18:10** Над Нёмнам (тэлечасопіс)
**18:30** Навіны
**18:40** Агляд медыяў
**18:45** Каментар эксперта
**18:50** Форум (ток-шоу): Мова ці палітыка?
**19:30** Навіны
**19:35** Свет
**19:50** Агляд падзеяў культуры
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд медыяў
**20:15** Гарачы каментар
**20:30** Навіны
**20:35** Гарачы каментар
**20:50** Дэвайс
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21:50** Асабісты капітал
**22:10** Рэмарка (культурніцкая праграма)
**22:40 «Кава і цыгарэты»**
**0:10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**0:30** Форум (ток-шоу): Мова ці палітыка?
**1:15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**1:40** Аб'ектыў
**2:05** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**3:35** Асабісты капітал
**3:55** Рэмарка (культурніцкая праграма)

